Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл.50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|

№. 22 Вільня, Нядзеля, 11-га ліпня 1926 г. Год I.

**№ 21 „Беларускае Справы“ з 10 ліпня с. г. сканфіскаваны па загаду п. Камісара Ураду на места Вільню за артыкулы „13.000 польскіх асаднікаў на Усходзе“ і „За сем гадоў“ (агляд працы радавага ўраду БСРР ад 11 ліпня 1920 году).**

## Задачы дня.

Незалежна ад вялікіх усенародных заданьняў, жыцьцё кожын дзень стаўляе перад працоўнымі масамі задачы—на пагляд больш дробныя, але ўсё-ж маючыя вялізарную вагу ў штодзенным будным жыцьці. Да ліку такіх спраў належыць і справа *нашых самаўрадаў*. Тут—пры выбарах у гмінныя самаўрады—перамога сялянства залежаць будзе перадусім ад таго, чы і як з‘арганізавана сама вёска. I гэта--рэч зусім зразумелая: кожная-ж гміна мусіць укладаць свае ўласныя выбарныя сьпіскі, мусіць падбіраць адпаведных кандыдатаў сярод сваіх сталых жыхараў, зьвязаных з усім жыцьцём данае гміны, ведаючых яе асаблівыя патрэбы і балячкі.

Справа выбараў у новыя самаўрады, здаецца, зьяўляецца аднэй з бліжэйшых спраў, да якіх нашае сялянства мусіць падыйсьці з поўнай сьвядомасьцяй і добра з‘арганізаваўшыся. Хаця ўрад узяў назад з Сойму законапраект аб арганізацыі гмінных і павятовых самаўрадаў, апрацаваны яго папярэднікамі ў страшэнна паганым для беларускага сялянства духу,—аднак-жа справа гэтая будзе ў вельмі хуткім часе разглядацца ў Сойме, бо там ёсьць другія праекты законаў аб самаўрадах, пададзеныя соймавымі партыямі. Ім і суджана будзе ў найбліжэйшым часе стацца абязываючымі законамі, і мо‘ яшчэ сёлета адбудуцца на іх падставе новыя выбары.

Ведама, хоць кожная гміна выбіраціме асобна, але-ж пры гэтым неабходна, каб усе яны чулі і бачылі ў сваіх суседзяў такую-ж работу, каб былі захоплены адным духам і адным імкненьнем, каб мелі нейкі свой супольны цэнтр, з якога маглі-бы ў кожны мамэнт атрымаць раду і інструкцыю, як найлягчэй дайсьці перамогі на выбарах. Трэба, каб гэты цэнтр у прэсе і адумысных выданьнях растлумачыў народу ягоныя правы, навучыў, як брацца да работы. — Такім цэнтрам зьяўляецца для беларускае вёскі яе ўласная партыя — Беларуская Сялянска - Работніцкая Грамада.

Запраўды-ж: Грамада, маючы свае партыйныя гурткі па вёсках і мястэчках краю, злучаныя з крэпкім цэнтрам у месьце, маючы сваю прэсу і выдавецтвы, у поўнай меры можа здаволіць усе тыя запросы, якія ўзьнімаюцца перад вёскай у сувязі з блізкімі ўжо выбарамі ў самаўрады. Абыймаючы і сялян і работнікаў, Грамада забясьпечывае сялянству дапамогу больш актыўных і навытараных у штодзеннай барацьбе работніцкіх сіл. I затым кіраўніцтва выбарнай акцыяй можа і павінна ўзяць на сябе іменна Грамада. Але дзеля гэтага трэба прысьпешыць яе арганізацыйную працу, трэба, каб усе жывыя сілы вёскі гурталіся каля яе, каб тварылі на мясцох зусім легальныя, дапушчаныя законам, гурткі і зьвязываліся з партыйным цэнтрам і ягонымі сэкрэтарыятамі.

Есьць у нас і яшчэ адна неадкладная справа, да якой вёска мусіць прыступіць сама шляхам арганізацыі сваіх сіл пад кіраўніцтвам тэй-жа Грамады. Гэта—справа *платы сельскім работнікам у часе сёлетняга збору ўраджаю*.

Справа ў тым, што ня толькі ў месьце пануе страшэннае безрабоцьце, але і ў вёсцы. I падобна таму, як у месьце — фабрыканты, так у вёсцы абшарнікі карыстаюцца вялікай сколькасьцю безработных і абразаюць ім плату, пэўныя, што ўсё роўна знойдуцца галодныя, якія будуць рабіць абы за што. Вось, вёска і павінна прыгатавацца даць адпор такому вызыску яе абшарнікамі. Вёска мусіць згуртаваць свае сілы, з‘арганізавацца і ня даццца эксплёататарам.—I тут ізноў адкрываецца ўдзячнае поле для дзеяльнасьці Грамады: ад яе вёска можа дастаць параду і навуку, што і як рабіць, можа дастаць і падтрыманьне ды заступніцтва перад уладамі, калі-б змаганьне—дзякуючы выступленьням адміністрацыі, заўсёды больш прыхільнае да абшарнікаў, чым да сялян,—прыняло вострыя формы.

Вось дзьве справы, якія вымагаюць добрае і хуткае арганізацыі вёскі, — справы ў якіх *перамога лёгка дастанецца вёсцы*, калі яна будзе аб‘яднана ў моцную *партыйную арганізацыю*.

Дык усе жывыя працаўнікі вёскі — ня траццьце часу! Настроі вашы, пагляды вашы—ведамы: яны і адбіліся ў праграме Грамады. Цяпер трэба толькі адно: *зьвязацца з сваей партыяй*.

## З Сойму.

### Агульная дыскусія ў справе зьмены Канстытуцыі.

У Сойме пачалася дыскусія над урадавым праектам аб зьмене Канстытуцыі. Урадавы праект ідзе так далёка па шляху абмяжаваньня ўлады Сойму ды, побач з тым, пашырэньня — коштам Сойму—выканаўчай улады (прэзыдэнта), што навет манархічны клюб „хрысьціянскіх абшарнікаў“ крычыць: ратуйце парлямант у Польшчы!.. Гэткім чынам—„лявіцовы“ ўрад Бартля-Пілсудскага аказаўся больш рэакцыйным, як крайняя правая Дубановіча і Строньскага...

Не знайшлося ніводнага клюбу ў Сойме, апрача лякайскага „Клюбу Працы“ (п. Касьцялкоўскага), які-б згадзіўся з праектам Бартля--Макоўскага—Пілсудскага...

---

Першым выступае п. **Гломбіньскі** — эндэк. Ён моцна бароніць правы парляманту на... заканадаўчую ўладу і кантроль над выканаўчай—над адміністрацыяй... Заканадаўства прэзыдэнта трэба абмяжаваць якмага. Фінансы, падаткі, пазыкі, самаўрады,—усё гэта можа рэгулявацца толькі заканадаўчай уладай парляманту, а не прэзыдэнта.

Але эндэцыя за тое трэбуе зьмены выбарнага закону. Яна хоча падвысіць век выбаршчыкаў да 25 гадоў, ды век выбіраных да 30. Яна дамагаецца, каб для розных часьцін Польшчы былі розныя выбарныя законы,—ведама-ж, каб лягчэй фальшаваць прадстаўніцтва насяленьня, а перадусім — абмяжаваць прадстаўніцтва ў Сойме сялянства, работнікаў і нацыянальных меншасьцяў. Хоча зьменшыць наагул лічбу паслоў і сэнатараў, ды падняць правы і павагу Сэнату.

П. **Дашыньскі** (ППС) вельмі востра і дасьціпна дае выражэньне нездаваленьня партыі былых пілсудчыкаў—урадам свайго былага правадыра — Пілсудскага.

Ён кажа, што дагэтуль адзіным рэзультатам „пераварату 14 траўня“ зьяўляецца—праект скасаваньня парлямантарызму ў Польшчы і стварэньня з яе—„паўманархіі“. Лаюць Сойм. Але калі Сойм быў благі ды падкупны, дык урады – яшчэ горшыя. Бо-ж хто рабіў Сойм падкупным, хто падкупаў паслоў ці клюбы, як ня міністры, ня ўрады?! (аб гэтым паны пэпэсы, ведама-ж, ведаюць найляпей: Грабскі, Скшыньскі, — каб не казаць аб даўнейшым, сыпалі грашмі на іх „арганізацыі“). Гэты аблаяны, збанкрутаваны Сойм ня мае права рабіць зьмены Канстытуцыі: гэта павінен зрабіць новы Сойм. Ураду мала паўнамоцтваў, каб рабіць парадак у краі: ён хоча зламаць палову Канстытуцыі, бо яна яму „перашкаджае“. — Зусім, як дрэннай танцорцы перашкаджае добра скакаць... стужка на спадніцы! Скасаваўшы самаўладзтва парляманту, хочуць увясьці — самадзяржаўе ўраду. Але ведайце, што па гэткай „санацыі“ заўсёды йдзе — нацыянальная катастрофа. Галасуем за тое, каб зусім адкінуць урадавы праект.

Навет польскія хадэкі—пас. **Блажэвіч**—трэбуюць, каб у Канстытуцыі былі зроблены толькі найпільнейшыя зьмены. Дэкрэтнае заканадаўства прэзыдэнта трэба абмяжаваць толькі часам выбарнай кампаніі, калі зусім няма ніякага Сойму.

Лідэр польскіх манархістаў п. Дубановіч кажа, што наагул увесь напрамак прапазіцыі ўраду адпавядае імкненьням партыі абшарнікаў-манархістаў... (добрыя камплімэнты „радыкальна-лявіцоваму“ ўраду пілсудчыкаў!), дык дзеля таго яго клюб—„ня будзе рабіць перашкодаў праекту“.

П. **Касьцялкоўскі** — ад імя сваей „урадавай партыі“ (4 паслы), п. **Паляневіч** (Сялянская Партыя) і п. **Кернік** (Пяст“) — за паўнамоцтвы прэзыдэнту.

П. **Станкевіч** — ад імя Беларускага Клюбу — згаджаецца з Дашыньскім і будзе галасаваць процi.

Міністар справядлівасьці **Маковскі**, аўтар праекту, адкрыта прызнаў, што праект **яго зроблены па прыказу і думцы самога Пілсудскага, які — якраз дзеля таго й не згадзіўся стаць прэзыдэнтам, што „рамкі гэтай Канстытуцыі для яго былі зацесныя“... Дык—ясна, што трэба іх пашырыць, каб Пілсудскі мог быць прэзыдэнтам... Для гэтага і зроблены праект...**

П. **Хруцкі**—украінец — ня можа зусім адрозьніць у Польшчы правіцу ад лявіцы. Яны зьліліся ў паходзе процi парлямантарызму. Пілсудскі яўна йдзе да дыктатуры, дыскрэдытуючы Сойм, дэмаралізуючы грамадзянства і тым — падгатаўляючы псіхалягічны грунт для свайго панаваньня...

П. **Сталярскі** — вызваленец, немцы-буржуа і жыды маюць „перарабляць праект“—у камісіі.

П. **Балін**—„незалежны селянін“ — рэзка крытыкуе праект, трэбуе адкінуць яго бяз дыскусіі. Кажа, што з усяго, што здарылася, добра прынамся хаця тое, што легенда аб Пілсудскім, як аб правадыру народу,—скончылася назаўсёды.

Прамова нашага п. **Валошына** паводле стэнаграмы будзе надрукованы ў бюлетэню „Бел. Сял.-Раб. Грамады“.

Галасаваньнем прапазіцыі камуністаў, як і пэпэсаў, каб адкінуць бяз чытаньня ўрадавы праект,—адкінуты большасьцю ўсяго Сойму процi пэпэсаў, камуністаў, беларусаў, украінцаў, нямецкіх сацыялістаў і „сялян-незалежнікаў“ (групы Баліна і Ваяводзкага).

Наступнае паседжаньне Сойму—15 ліпня. Да таго часу праект будзе разглядацца ў камісіі.

## У Польшчы.

### Забастоўка на Паморыі.

Канфэрэнцыя Варшаўскіх саюзаў работнікаў „грамадзкіх устаноў“ вынесла 6 г. м. рэзалюцыю, у якой кажа, што ў выпадку далейшай няўступчывасьці самаўрадаў — падтрымае забастоўкаў у Варшаве паморскіх таварышоў.

Варшаўскія аддзелы маюць 7000 з‘арганізованых работнікаў. Управа пачала ўжо падрыхтовывацца да забастоўкі.

### Забастоўка друкароў у Варшаве.

29 чэрвеня спынілі працу ў Варшаве ўсе друкарскія прадпрыемствы, акрамя газэтных.

Друкарскія работнікі дамагаюцца выплаты падвышкі на дарагоўлю і пратэстуюць процi жаданьня ўласьнікаў зьменшыць і так мінімальную заработную плату. Бастуе больш, як тысяча работнікаў.

Саюз друкароў у Польшчы пастанавіў падтрымаць Варшаўскую забастоўку.

### Барацьба ў валакністай прамысловасьці скончылася.

Работнікі згодзіліся на 12-ці працэнтную падвышку.

### Справа правакатараў.

Як даносіць „Robotnik“ (№ 181), 23/VI адбыўся ў Баранавічах суд над паліцэйскім правакатарам М. Юдалевічам і яго сябрамі, ды 2 паліцыянтамі. Падкідалі яны комуністычныя адозвы людзям, а пасьля бралі грошы за выданьне ўладам „wywrotowców“. Шмат чаго на судзе высьвілася. Абвінавачаны Сяйдэр гаворыць, што, калі ён, ня

могучы глядзець на зьдзекі над загубленымі ім людзьмі, пачаў грозіць паліцыі, — яна моцна пабіла яго. Пісьмо, каторае ён пісаў у гэтай справе камісару, і дагэтуль не дайшло па адрасу.

Правакатары вялі сваю работу вельмі проста. Затрымлівалі яны ахвяр на вуліцы, пытаючыся, ці ня згубіў чаго-небудзь, а пасьля падавалі ім кіненыя імі-ж самімі адозвы ды арыштоўвалі.

Сьведка А. Рубінчык, арыштаваны гэтакім чынам, быў звольнены пасьля таго, як выкрылася правакацыя. Праз нейкі час, аднак, яго ўзноў арыштавалі, і ён дагэтуль сядзіць у Горадні. Сваё пакараньне дае, як палітычны вязень.

Паліцыянт Пасяк, па загаду якога ўсё гэта рабілася,—біў сваіх ахвяр па твару, хоць ведаў, што яны нявінны. А Фогелю (сьведку) пакалечыў ён вочы.

Прыгаварам суда засуджаны 4 правакатары на 2 гады турмы, 1 (дзяўчына) на 6 месяцаў, а паліцыянты Пасяк і Клеініковскі—звольнены.

### Самасуд над правакатарам.

6/VII вечарам у Лодзі да правакатара Вітkoўскага, які быў галоўным сьведкай у працэсе проці саюзу камуністычнай моладзі „Ігла“,— стрэліў тры разы 17-гадовы хлопец Я. Шылінскі.

Цяжка раненага Віткоўскага адвязьлі зараз жа ў бальніцу. Шылінскага затрымала паліцыя.

### Студэнты польскіх школ—штрайкбрэхеры.

Пры забастоўцы кельнэраў у Закапаным студэнты выступаюць узноў у агіднай ролі штрайкбрэхераў.

Адбіраюць яны кавалак хлеба работніку, які працуе на іх і дае магчымасьць вучыцца.

Сярод служачых пануе вялікае абурэньне, і ня выключана жорсткая расправа з студэнтамі—лякаямі ўласьнікаў рэстаранаў.

## Заграніцай.

### Амністыя ў Літве.

Як даносіць ПАТ з 5/VII, Літоўскі Сойм у трэцьцім чытаньні прыняў закон аб амністыі для ўсіх палітычных вязьняў.

### Паварот свабоды прэсы.

7/VII рэдакцыі Ковенскіх газэт былі паведамлены аб скасаваньні ваеннай цэнзуры, якая дагэтуль рашала аб „благанадзёжнасьці“, ці „неблаганадзёжнасьці“ газэтных артыкулаў да выхаду іх у сьвет.

### Выняткова палажэньне ў Англіі.

Парлямант 181 галасамі проці 64 прыняў рэзалюцыю—аб утрыманьні надалей выняткавага палажэньня—ў зьвязку з няспыніўшайся забастоўкай вуглякопаў.

### Турцыя ня ўвойдзе ў Лігу Народаў.

Прадстаўнікі турэцкага ўраду заявілі, што Турцыя ня зьбіраецца ўвайсьці ў склад Лігі Народаў. Як думаюць, прычына гэтай адмовы — ў тым, што новы радава-турэцкі дагавор абязывае абедзьве староны—ня браць на сябе ніякіх новых палітычных і эканамічных абавязацельстваў бяз згоды другой старaны. А ведама-ж, што СССР—рашуча проці Лігі Народаў. З таго-ж відаць, што заключаны нядаўна нямецка-расейскі дагавор („Бэрлінскі“) падпісаны Радамі—ў поўным паразуменьні з Турцыяй. Гэткім чынам ён стварае вялізарнай моцы ваенна-гаспадарчы „саюзны арганізм“, які можа дыктаваць сваю волю ўсяму Усходу,—як Блізкаму (Малой Азіі), так сама — Сярэдняму, калі не—Далекаму...

Бачым з гэтага і тое, што „мосульская перамога“ Англіі ня дала перамогі палітычным уплывам Англіі ў Турцыі, якая ня йдзе ў Лігу якраз дзеля таго, што там камандуе Англія.

### Новае паўстаньне друзаў у Сірыі.

Толькі-што хваліўся Брыян у парляманьце, што ён задушыў абодва паўстаньні ў Марокко і ў Сірыі. Але вось—як у Марокко, так сама і ў Сірыі ізноў узгарэліся бітвы. Камісар Жувэніль тэлеграмай просіць Парыж выслаць падмогу — настолькі паважная небясьпека новага паўстаньня.

### Хатняя вайна ў Кітаі.

Чанг-Со-Лін у саюзе з Ву-Пэй-Фу пачалі грандыёзнае наступленьне на абодва цэнтры, дзе згрупаваліся сілы народных арміяў (кітайскіх незалежнікаў).

Адначасна йдзе наступленьне на паўночную групу ген. Фэнга, апіраючуюся на Манголію (і на дапамогу СССР), і—на Кантон, сталіцу сярэдняга Кітаю, дзе дагэтуль яшчэ моцныя ўплывы партыі гоміндан (кітайскіх бальшавікоў-незалежнікаў).

Фактычны дыктатар амаль ня ўсяго Кітаю — Чанг—пасадзіў у Пэкіне новы ўрад.

---

„Беларуская Справа“, адзіная ў Заходняй Беларусі беларуская газэта, якая стаіць у абароне інтарэсаў працоўнага сялянства і рабочых.

Кожны сьвядомы беларус павінен чытаць, распаўсюджываць, выпісываць і дапамагаць сваей газэце.

## „Уласны порт“ у Гдыні.

(абразок з гаспадаркі польскай „імпэрыялістычнай“ буржуазіі).

Усім ведама, што тая „Вялікая Польшча“, — „мацарствовая“, як казалі яшчэ нядаўна,—„разбудаваная па-над стан“, як кажуць цяпер,— створана—проці волі ўсіх вялікіх дзяржаў — Францыяй, дыктаваўшай у першыя часы пасьля вайны сваю волю Эўропе.

Ведама-ж,—Расеі ня было. Нямеччына, навет пабітая, страшыла сьмяротна раненую ў барацьбе Францыю,—дык на Вялікую, „мацарствовую“ Польшчу ўскладаліся няменш вялікія надзеі... І вось—адроджаная па цудоўнаму загаду Францыі Польшча, разам з сваей дабрадзейкаю, пачалі будаваць гэтую польскую „мацарствовасьць“...

Як запраўды „цудатворна“ — запраўды-ж, як у байцы,—рабілася ўсё тады Францыяй для Польшчы, каб за ўсялякую цану зрабіць яе — „мацарствовай“!...

Францыя для Польшчы ня толькі адрывала ад Нямеччыны найлепшыя кавалкі яе зямлі, належаўшыя да яе больш, як 700 гадоў,—пазываючыся на большасьць там польскіх сялян і работнікаў (В. Сілезія); Францыя з другога боку, дазволіла Польшчы захапіць сілай „дармовага“ францускага аружжа вялізарныя абшары зямлі, дзе польскага сялянства і работнікаў—толькі лічаныя адзінкі, затое ёсьць жменя панаў-абшарнікаў, як у В. Сілезіі—немцаў—фабрыкантаў. Проці рашучай волі Англіі Польшчы дадзены быў — чыста нямецкі Данцыг (Гданск), які — спэцыяльна для Польшчы—быў зроблены напалову „вольным местам“, каб Польшча магла карыстацца ім, як амаль ня ўласным сваім портам...

Але з немцамі, пры падтрыманьні іх англійскімі высокімі Камісарамі Данцыгу ад імя Лігі Народаў, усё цяжэй было як Польшчы, так і Францыі, вясьці барацьбу. Дык Францыя, упорна ўсё яшчэ ставіўшая карту на „Вялікую Польшчу“, пастанавіла пабудаваць для Польшчы побач з Данцыгам (Гданскам) асобны, выключна ўжо польскі порт—Гдыню...

І вось распачалася гарачая праца—будаваньня „ўласнага порту“—для „мацарствовай“ Польшчы... Была створана спэцыяльная „суполка“ найвялікшых францускіх банкаў і будаўляных фабрык, якую часткай фінансавалі, часткай гарантавалі—як францускі, так сама і польскі ўрады.

Тым часам падзеі ў Польшчы і навакол Польшчы йшлі сваей чаргой... Уздымалася і адраджалася Расея, багацела і магутнела Нямеччына, адбудоўваючы паволі, але няўхільна, свае даваеннае становішча ў сьвеце. Банкрутуе ўсе больш і дыктатура Францыі ў Эўропе... А ў той самы час у Польшчы ўсё неяк ня йшло на лад.—Сьпярша-за часоў Пілсудскага, за часоў інфляцыі,—жылося добра—грошаў было, колькі хочаш, бо ж друкавалі іх, ня лічучы выдаткаў ды не шкадуючы паперы. Калі гэткім чынам лопнула адна валюта, пачалі тварыць другую — „мацнейшую“. І вась, як толькі Грабскі пачаў падлічаць грошы, выдаючы іх на расход, дык і аказалася, што „баечныя часы“ інфляцыйнай Польшчы Пілсудскага зьелі ўсё багацьце дый усю сілю разбудаванай па-над стан дзяржавы... Але Грабскі ўсьцяж будаваў—для Францыі—„мацарствовую“ Польшчу ўжо на новай валюце, пакуль і гэтая валюта не „заламалася“...

Тады неяк адначасна з абодвух бакоў пачынаецца ахалоджаньне гарачае любві між абедзьвюма саюзьніцамі—Польшчай ды Францыяй. Гаворачы яшчэ па старой прывычцы тыя-ж „словы вернасьці“,—абадзьве шукаюць іншых саюзьнікаў і дабрадзеяў.

Францыя першая рашуча зьмяняе адносіны да Польшчы—дзеля Англіі і Нямеччыны. Польшчу неяк „падбірае“ пасьля Францыі — так сама дзеля сваіх мэтаў Англія.

Дык—ці-ж ня ясна, што гэткія рашучыя зьмены ў міжнародавых сувязях Польшчы не маглі не адбіцца і на яе „мацарствовым выхадзе да мора“?!

Калі Францыя мела яўную карысьць ад істнаваньня ў тылу Нямеччыны моцнага польскага ваенна-таргавага порту, які быў-бы заўсёды на загады Францыі, дык Англія, паразумеўшаяся з Нямеччынай—проці Францыі, ня мае ўжо ў гэтым ніякай карысьці, бо перад усім заўсёды лічыць, што чым менш на сьвеце **неангілійскіх** партоў, тым лепш...

І вось у выніку зьмены міжнародавага і ўнутранага палажэньня Польшчы — „уласны польскі порт“ у Гдыні—сымвалічны абраз „моцарствовай Польшчы“ — зусім закінуты, каб не сказаць мацней.

Вось, што піша аб стане работ у Гдыні правая прэса:

„Ад нейкага часу будаваньне порту ў Гдыні стала на мертвым пункце. Прычынай гэтага зьяўляецца затапленьне ў порце трох вялізарных землячарпальных машынаў, якія былі ўласнасьцю францускай суполкі, што вяла гэтыя работы... Але знаўцы мясцовых стасункаў і тэхнікі кажуць, што затапленьне гэтых машын ня можна вытлумачыць іх тэхнічнай нягоднасьцю ці няўдалым кіраўніцтвам імі. Кажуць, што тут мела мейсца — праступная рука, якая мела на мэце — прыпыніць на даўгі час працу над портам“...

Як бы ні было, але „натуральным“ вынікам гэтага затапленьня машын было тое, што француская суполка ня выпаўніла прадугледжаных у дагаворы работ на 1926 год... З другога баку—невыкананьне сьметных работ суполкай выклікала няменш натуральна — адмову з боку польскага ўраду чарговай выплаты належнай суполцы сумы грошаў,—у лічбе 3 мільёнаў залатых франкаў, дый яшчэ—трэбаваньне вялізарнай няўстойкі.

А гэта—яшчэ больш натуральна — выклікала банкруцтва францускай суполкі, якая ня здолела польскай „ратай“ пакрыць свае даўгі ў банку амэрыканскага мільярдэра Моргана, дый спыніла ўсялякую працу ў Гдыні...

Аб няўстойку пачаўся спор паміж суполкай і польскім урадам, які пашоў у „разьемчы суд“... Калі прыяцелі ды саюзьнікі пачалі судзіцца, дый яшчэ аб грошы,—гэта ўжо дрэнна. А галоўнае, што порт у Гдыні—„прадстаўляе від сумнага спусташэньня“, як цяжка ўздыхае правая прэса.

Па распачатым „мацарствовым“ порце, як па пакінутым муравейніку, соўваюцца і кратаюцца некалькі дзесяткоў людзей... Асыгнаваныя Соймам крэдыты на будову „ўласнага порту“ ляжаць сабе, чакаючы лепшых часоў...

Ці дачакаюцца, аб тым можа ведае — новы ваенна-марскі міністар марш. Пілсудскі... Мы гэтага ня ведаем. Мы паказываем толькі яшчэ лішні раз—вынікі тэй „велько-моцарствовай“ гаспадаркі, якую праз увесь час вяла ў Польшчы — коштам яе работнікаў і сялян—польская „імпэрыялістычная буржуазія“.

Каб хаця навет сабе на карысьць, ці—Францыі, а то—літэральна ні для кога! **Н.**

* * *

**Ад Рэдакцыі.** Стацьця гэтая была ўжо складзена ў друкарні, калі міністэрства гандлю і прамысл. паведаміла, што між ім і француска-польскай супалкай падпісана паразуменьне—аб узнаўленьні працы над портам у Гдыні. Паразуменьне—вельмі карыснае для Польшчы—павінна быць яшчэ зацьверджана ўрадам.

## 8-мы зьезд парабкоў.

26/VI распачаўся ў Варшаве зьезд парабкоў (Związek Zawodowy Robotników Rolnych). Было прысутных 128 дэлегатаў і 17 гасьцей.

Прафэсіянальны саюз парабкоў яшчэ дагэтуль апанаваны пэпэсамі.

Як заўседы, так і на гэтым зьезьдзе правадыры ППС ашуківалі дэлегатаў, хвалючыся сваей „магутнай сілай“ і прызываючы іх зьбіраць для ППС галасы пры выбарах у Сойм.

„Калі работнік і мужык кіне свой голас за нас,—тады Сойм будзе работніцка-сялянскі і створыць урад работніцка-сялянскі“—казаў Дашыньскі.

Кожны сьвядомы чалавек гэтакіх правадыроў мусіць уважаць здрайцамі, якія хочуць злавіць больш галасоў, ня думаючы запраўды аб паляпшэньні жыцьця парабкоў.

Усё, казаў Дашыньскі, зробіць Сойм. Не — няпраўда! Сойм—гэта месца, дзе паслы работнікаў і сялян могуць толькі крычаць ды раскрываць перадусімі разбойніцкую палітыку буржуазіі. Сойм—гэта толькі адзін адрэзак на фроньце змаганьня працуючых мас, а не адзіны шлях да вызваленьня. Нат больш. Сойм ня можа даць вызваленьня, бо буржуазія заўсёды правядзе сваю большасьць, падкупіць часьць паслоў (як гэта зрабіла з ППС), а не — дык разгоніць Сойм, калі ёй будзе патрэба. Разагналі-ж нямецкія фашысты Сойм у Саксоніі, ды не далёка шукаць трэба: Пілсудскі саўсім выразна сказаў нядаўна, што, калі Сойм ня будзе яго слухацца, дык разгоне яго, як разагнаў урад Вітаса...

А пасол Дашыньскі, правадыр ППС, гаворыць: сядзіце ціха і выбірайце ў Сойм нас,—дык будзеце мець работніцка-сял. ўладу.

Дэлегаты парабкоў выступалі, як запраўдныя прадстаўнікі мас.

У рэзалюцыі па зямельнаму пытаньню, напр. гаворыцца: „прылучаючыся да пастаноў папярэдніх зьездаў у справе зямельнай рэформы, а асабліва неабходнасьці забраць зямлю бяз выкупу і распарцэляваць яе між парабкамі, беззямельнымі і малазямельнымі,—VIII зьезд з абурэньнем адзначае, што распачатая ад 1919 году і трываючая дагэтуль парцэляцыя нічога супольнага з зямельнай рэформай ня мае і ёсьць адным ланцугом нягоднай спэкуляцыі зямлёй...“.

На гэту рэзалюцыю былі змушаны згадзіцца і правадыры ППС, хоць самі яны правалілі зямельную рэформу бяз выкупу!

Апрача гэтага, зьезд пастанавіў дамагацца: 1) амністыі для палітычных вязьняў, 2) пашырэньня касы хворых на вёску, 3) дапамогі для вясковых безработных, — ды высказаўся проці зьмены канстытуцыі і паліцэйскіх гвалтаў.

Шкода, што рэзалюцыі гэтыя астануцца на паперы, пакуль здраднікі будуць кіраваць арганізацыяй.

Арганізуйцеся, парабкі, у прафэсіянальных саюзах ды ганеце з іх ППС! Толькі, як ачысьціцеся ад здраднікаў,—саюз будзе запраўды Вашым!

---

# З жыцьця „Грамады“.

**У м. Паставы**, Пастаўскага пав., 28/VI 1926 г. створаны Пастаўскі Гурток Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады.

Камітэт Гуртка працуе што-дня.

---

**У м. Мір**, Стаўпецкага пав., 29/VI 1926 г. створаны Мірскі Гурток Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, які месьціцца ў памешканьні Янкі Саковіча Мірская вул. № 61.

Камітэт Гуртка працуе што-дня.

---

У вёсцы **Вялікія-Жухавічы**, Жухавіцкае гм., Стаўпецкага пав. 1 ліпня 1926 г. створаны Вяліка-Жухавіцкі Гурток Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады.

Камітэт Гуртка працуе што-дня.

---

**Згублены дакумэнт.** Згубленае Зофіяй Асененка пасьведчаньне, выданае ёй, як даверанай асобе грамады, ад Цэнтральнага Сэкрэтарыяту Грамады ў Вільні 19 чэрвеня 1926 г. № 151, **уневажняецца**. Новае пасьведчаньне высылаецца ей за № 435 з 9. VII. 1926 г.

# ХРОНІКА.

**Замыкаюць вусны.** На дзень вялікіх фэстаў і кірмашоў 12. VII. с. г. паслы Соймавага Клюбу Белар. Сял.-Раб. Грамады меліся зрабіць справаздаўчыя мітынгі ў м. Трабах Валож. павету (Рак-Міхайлоўскі і Мятлз), у Зблянах Лідзкага павету (Тарашкевіч і Сабалеўскі) і ў Ракавічах Лідзк. пав. (Валошын), а 16. VII. с. г. меўся адбыцца мітынг ў м. Ліпнішкі Лідзк. павету (Рак-Міхайлоўскі і Мятла). Заява аб гэтых мітынгах была зложана Наваградзкаму Ваяводзе 28. VI. с. г. I вось 7. VII. атрыманы Клюбам адмоўны адказ Ваяводы: „з прычын публічнае бясьпечнасьці дазволу не даецца“. Коратка і ясна! Паслы з польскіх партыяў „Вызваленьне“ і пэпэсы свабодна робяць мітынгі; ім дазвол даецца, і ня толькі паслам, але навет і інструктаром тых партыяў, а нашым паслам замыкаюць вусны, не даюць гаварыць тым, словаў якіх наш народ прагне.

Раней забаронены былі чатыры мітынгі („Народная Справа“ № 3), цяпер бачым забарону на новыя чатыры мітынгі.

Так урад Бартля — Пілсудскага папраўляе адносіны да нацыянальных меншасьцяў!

**Дзеля чаго гэта робіцца?** Віленскі ваявода даў загад па гмінам, а потым на пошце, каб у **24 гадзіны** даць вестку:

1) Колькі газэт і **хто** выпісываець;

2) Якой нацыянальнасьці і рэлігіі, а таксама колькі людзей знаходзіцца ў данай гміне.

Цікаўна выясьніць, дзеля чаго гэта робіцца і ці ня ёсьць гэта спроба запалохаць падпісчыкаў опозыцыйных газэт? — Калі так, дык дарма: народ ужо ведае свае правы, і яго гэтыя штукі не запалохаюць!

**Які сёлета будзе ўраджай?** Міністар сельскай-гаспадаркі паводлуг сабраных урадам даных аблічае, што сёлетні ўраджай жыта і пшаніцы ў Польшчы будзе горшы за леташні. Есьць надзея на такі самы, а мо' і лепшы ўраджай аўса і ячменю.

**Безрабоцьце ў Вільні не зьмяншаецца.** Лік зарэгістрованых безработных, паводлуг даных статыстычнага ўраду, даходзіць у Вільні да 5200 асоб.

**Справа Маладэчанскага староства.** Тэрмін з'арганізаваньня новага Маладэчанскага староства адложаны да 1/I—1927 году.

**Халера ў Віленска-Троцкім павеце.** Як даносіць „Słowo“, у Ляндварове здарыўся выпадак халеры.

**Зладзействы ў Школьным Кураторыуме.** 14 верасьня адбудзецца суд над Пожэрскім і К°, абакраўшымі кураторыум на 8 тысяч злотых.

Абвінавачаны Якубоўскі ўцёк у Коўну.

**Афіцыяльны курс грошы на 8-га ліпня.** Даляр — 9 зл. 15 гр. Залаты рубель — 4 зл. 71 грошы.

8. VII. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 9,25 Чырвонец — зл.

## Першыя угодкі сьмерці адваката Врублеускага.

3-га ліпня — у першыя ўгодкі дня сьмерці слаўнага віленскага адваката, кніга—і народалюба Врублеўскага — у яго кватэры, дзе пакуль-што знаходзяцца ўсе яго вялізарныя і цэнныя зборы кніжныя і іншыя,—адбылася памінальная ўрачыстасьць у чэсьць яго.

Арганізацыйны Камітэт, у складзе прадстаўнікоў палякоў, літвіноў і аднэй з беларускіх груп, чамусьці запрасіў на ўрачыстасьць „гастралёра з Варшавы“ — ведамага сваім „красамоўствам“ (без адпаведнага зьместу!) адваката Ледніцкага. Гэты п. Ледніцкі і заняў сваёй прамовай амаль не палову ўсей урачыстасьці. Ані асабістасьці ані значэньня памершага віленскага дзеяча п. Ледніцкі не адмаляваў. Больш паважным і рэчавым быў цікаўны даклад найбліжэйшага прыяцеля нябошчыка п. Людвіка Абрамовіча, рэдактара „Przegl. Wil.“,—аб палітычных паглядах Врублеўскага. Але і гэты дакладчык вельмі зьмягчаў ды затушоўваў у паглядах яго тое, што ня было-б прыемна чуць сабраўшымся ў пераважаючай большасьці палякам. Вельмі цікаўнай была, ужо з „палітычнага боку“, прамова п. Вітольда Абрамовіча, былога старшыні ўраду „Сярэдняй Літвы“, які, здаецца, вельмі блізка стаіць да сучасных паноў палажэньня ў Варшаве. Гэты аратар, яшчэ нядаўна становчы абаронца перадусім — „польскай дзяржаўнасьці“, цяпер неяк іначай глядзіць навет на дзяржаўныя граніцы Польшчы. Ён казаў, што значна важнейшымі і рашаючымі зьяўляюцца — так сказаць, „граніцы народаў“. А гэтыя народы, калі маюць жаданьне „зрабіць сваей“ Вільню (на якую маюць права ўсе, як палякі, таксама і беларусы, і літоўцы і жыды), дык павінны перадусім пагадзіцца. З гэтага пагляду—Врублеўскі быў як быццам сымвалам гэтай супольнай усім мясцовым народам — будучай Вільні. Бо і ён лічыў усіх сваімі і яго лічаць слушна ўсе сваім.

А гэтая згода народаў адчыніць, калі не сатрэ, і тыя кардоны і дроты, якімі падзелены ды парэзаны цяпер народы, прадстаўленыя ў Вільні, ці наагул у нашым краі.

Усё гэта—пекна. Пекна, пакуль не зачэплена пытаньне аб тым, дзе ўсё-ж такі аратар лічыць патрэбным пакінуць дзяржаўныя граніцы нашага Краю...

Наагул — палітычны зьмест урачыстасьці ў памяць вечна жывога для нас нябошчыка Врублеўскага можна ўбачыць—у дэлікатным флірце з літвінамі, з якімі ізноў—з прыходам Пілсудскага—можа пачнуцца нейкія перагаворы аб „фэдэрацыі“... З беларусамі, ведама-ж, перагаворы—значна цяжэйшыя. Дык беларусы зьяўляліся палітычна на сабраньні—толькі „аздобай“...

Павадыр мяйсцовых літвіноў докт. Ольсейка, цёпла і ўдзячна ўспомніў аб дарагім і літвіном нябошчыку.

Што датычыць „салідарнасьці і толеранцыі“, якімі радзіў лячыцца ўсім грамадзянам Краю з аптэкі нябошчыка адв. Ледніцкі, дык пэўна-ж лекі ад краёвай хваробы можа і правільна паказаны. Але лякарства гэтага неяк — замала: „раз у год па сталовай лыжцы“, як можна-б перарабіць расейскую прыказку...

Адзін з прадстаўнікоў беларусаў, выходзючы, сказаў: „Цяпер паны польская дэмакратыя назначаць нам чарговае рандэву (спатканьне)—3 ліпня 1927 году“...

Прадстаўнік жыдоўскага грамадзянства—адзіны прысутны—д-р Шабад скардзіўся паміж іншым на тое, што жыдоў, якія таксама лічаць дарагога нябошчыка сваім, не запрасілі ў склад арганізацыйнага камітэту.

У канцы д-р Ольсэйка расказаў аб сваіх уражаньнях з падарожы ў Літву. Дэмакратычная Літва (асабліва цяпер), скінуўшы путы хадэцкія, расьце і разьвіваецца з кожным днем...

Прамова кс. Станкевіча выразіла мо' крыху заслаба любоў і пашану беларускага грамадзянства да сьвятой для нас памяці аб нябошчыкуабаронцы барацьбітаў за нашу волю. Тонка сказаў ён па адрасу п. Ледніцкага, які баяўся, што польскае грамадзянства можа забыцца аб Врублеўскім: за беларусаў, якіх ён бараніў ад расстрэлаў, турмаў ды паняверкі, гэткага страху быць ня можа.

## Амністыі!

Амністыя!.... далоў вастрогі!!..  
Даволі путаў—кандалоў!  
— Крычыць народ загнаны, ўбогі:  
Аддайце нам бацькоў, сыноў!...

Зямелька наша стогне, плача,  
Бо турмы ў ёй адно цьвітуць;  
А той, хто праўду хоча бачыць,  
У ланцугі таго куюць!..

Амністыі мы патрабуем,  
Але паны ня хочуць даць...  
Амністыі!—мы пратэстуем! —  
Даволі ў путах люд трымаць!..

Дык гром пратэстаў раздавайся!  
Хто-ж яго ў сілах заглушыць?  
Народ працоўны, адгукайся! —  
Пара ўжо турмы адчыніць!!

**Х.**

## Водгукі Павлюкевічаўскага „зьезду“

На паседжаньні палітычнае камісіі зьезду 28 чэрвеня с. г. была прынята гэткая рэзалюцыя:

„Зьезд, склікaны ў Вільні 27 — 28 чэрвеня г. г., дамагаецца ад польскае дэмакратыі, трымаючай, дзякуючы збройнаму выступленьню марш. Язэпа Пілсудскага, уладу ў сваіх рукох, выкананьня ніжэйпаданых жаданьняў беларускага народу.

1) Якнайхутчэйшага наданьня тэрыторыяльнае аўтаноміі для Заходняй Беларусі.

2) Поўнае амністыі для ўсіх вязьняў, засуджаных па палітычным, нацыянальным і рэлігійным справам.

3) Якнайхутчэйшых выбараў у самаўрад на дэмакратычных асновах з захаваньнем правоў беларускага насяленьня і абароны гэтых правоў ад уціску з боку адміністрацыі.

4) Незабаўнага ўвядзеньня судоў прысяжных, скасаваньня вынятковых (doraznych) судоў і кары сьмерці.

5) Роспуску Сойму і Сэнату і новых выбараў на аснове істнуючай выбарнай ордынацыі.

Зьезд лічыць сябе неправамоцным выдзяліць з сабе гэткі орган, які зьяўляўся-бы прадстаўніцтвам усяго беларускага насяленьня ў Польшчы дзеля таго, што на ім ня было прадстаўнікоў ад большасьці беларускіх палітычных, культурных і грамадзкіх арганізацыяў, а таксама прадстаўнікоў навет ад цэлых паветаў. Дзеля гэтага зьезд выбірае толькі часовы орган, якому даручае прадставіць пажаданьні свае цэнтральнай уладзе, і, калі гэта будзе выканана, злажыць сваё паўнамоцтва“.

Рэзалюцыя гэта разам з пратаколам паседжаньня палітычнае камісіі была перададзена сэкрэтаром камісіі гр. Аляхновічу, як сябру Прэзыдыуму Зьезду для далейшае перадачы ў Прэзыдыум. Гр. Аляхновіч сцьвердзіў пазьней, што аддаў рэзалюцыю доктару Павлюкевічу, які замест таго, каб агласіць яе—агласіў напісаную ім самім рэзалюцыю, якая і была прынята зьездам, дзеля браку іншае. Апазіцыя, ня маючы копіі і ня маючы магчымасьці падчас абрадаў зьезду напісаць іншае, была змушана абмежавацца папраўкамі.

Гэткім чынам зьезд быў папросту ашуканы сваім старшынёй і ня толькі ў аднэй справе. Дакладу мандатнае камісіі, ня гледзячы на трэбаваньня гэтага, зусім ня было і зьезд de jure ня ведаў, хто ён такі і каго прадстаўляе.

У першы дзень зьезду рэзультаты галасаваньня над прывітальнымі дэпэшамі быў гэтакі: За дэпэшамі, апрацованымі Прэзыдыумам, галасавала 24 ці 5 за, 14 проціў і 6 устрымаўшыхся, тады калі агульны лік дэлегатаў быў каля 100. Большасьць дэлегатаў устрымалася, як відаць, ад падачы сваіх галасоў, а зусім няведама, які быў-бы вынік пры паўторным а асабліва тайным галасаваньні.

Некаторых „няпрыемных“ дэлегатаў папросту выкідалі з салі, дзе адбываўся зьезд, як было гэта напрыклад з гр. Ласёнкам, які злажыў грам. Шышкову заяву з просьбай яе надрукаваць у беларускай прэсе. Вось гэтая заява:

Я, ніжэйпадпісаны, Іван Ласёнак, дэлегат Браслаўскага павету, м. Друі на Зьезд Заходняе Беларусі, маючы мандат за № 7, гэтым заяўляю, што на другі дзень зьезду пасьля абедзеннага перарыву Паўлюкевіч схапіў мяне за грудзі і выстаўляў за дзьверы. Гэтым пратэстую проціў гэткага спосабу барацьбы з сваімі праціўнікамі. Іван Ласёнак. Вільня, 28-га чэрвеня 1926 года.

Амаль ня тое самае, што было зроблена з рэзалюцыяй палітычнае камісіі, было зроблена з рэзалюцыяй зямельнае камісіі. Таксама рэзалюцыя камісіі зьгінула недзе, а прэзыдыум зьезду падаў да ведама зьезду іншую.

## Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар!*

Не адмоўцеся зьмясьціць у Вашай часопісі наступнае.

Ужо некалькі гадоў—асабліва пасьля кіраванай мной выбарнай кампаніі ў 1922 годзе — ідзе адкрыты паход польскае дэфэнсывы проці маей асобы. Нялічаныя фальшывыя „мэльдункі“ і інсьпіраваныя заметкі ў польскіх газэтах аб маей „антыпаньствовай“ дзеяльнасьці не маглі аднак-жа даць даволі матар'ялу для сфабрыкаваньня нейкага палітычнага працэсу проці мяне: дык вось у у выдаваных за ўрадавыя грошы дэфэнзыўных органах у беларускай мове („Грамадзкім Голасе“, пасьля перахрышчаным у „Беларускае Слова“) распачалася сыстэматычнае пэцканьне майго імя, каб гэтак кінуць цень і на тую ідэю, якой я служу. Не абыйшлося і бяз вулічных нападаў на мяне дробных дэфэнзыўных „супрацоўнікаў“. Урэшце, калі й гэта не памагала, улада ўчыніла йшчэ адзін крок, каб мяне зламаць і пазбавіць магчымасьці аказваць ідэйны ўплыў на беларускую моладзь: віленскі куратар забараніў мне вучыць у Віленскай Беларускай Гімназіі, у якой я працаваў ад 1920 году і быў навет зацьверджаны на становішчы вучыцеля беларускае літэратуры міністэрствам.

Але й гэтага не даволі. Яўным агентам дэфэнзывы людзі мала веры давалі, калі тыя пісалі на мяне свае ілжывыя закіды і лаянку. Дык трэба было знайсьці нейкую лепшую „фірму“. I такая „фірма“ знайшлася: гэта—фірма некалі істнаваўшай і пасьля зьліквідаванай партыі беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў.

Ад партыі гэнае асталіся трое людзей на эміграцыі ў Празе чэшскай: Тамаш Грыб, Язэп Мамонька і Палута Бадунова. Апошняя, з прычыны ўмысловай хваробы, знаходзіцца ў бальніцы, і гэтак „партыю“, яе „арганізованы народ“, яе „цантральны камітэт“ і адначасна „загранічную групу“ складаюць гэныя двое людзей — Грыб і Мамонька, пазбаўленыя ўсялякае сувязі з краем і народам ды ўсялякага ўплыву на масы. Але — „фірму“ яны ўсё ж захавалі і выкарыстываюць яе, як умеюць.

Пасьля падарожы ў Прагу прадстаўніка пэпэсаў пана Голувкі і перагавораў яго з „партыяй“ эсэраў у складзе гэных двух людзей, польскі урад даў „ціхую амністыю“ Грыбу і Мамоньцы. Апошні ўжо прыехаў у Польшчу і „працуе“ тут; хутка мае быццам прыехаць і другі. А ў якім кірунку будзе ісьці іх „праца“, паказуе іх поўнае

брахні выступленьне проці мяне ў нягодным пасквілю, надрукаваным у лістоўцы, гучна называнай „Бюлетэнем Партыі Беларускіх Эсэраў“.

Аб гэтым пасквілю я даведаўся толькі цяпер, прачытаўшы перадрук яго ў віленскім дэфэнзыўным „Беларускім Слове“. Хаця на зьвягу ўсіх „дзеячоў“ падобнага тыпу я не зварачаю ўвагі, аднак, з прычыны таго, што пад апошнім пасквілем пастаўлена пячаць нібы-то „партыі“, што прыдае яму від грамадзкага голасу, лічу патрэбным спраставаць усю гэтую ілжу.

Перадусім сьвядомай брахнёй зьяўляецца заява аб маім быццам то ўчасьці ў пасылцы Радай Рэспублікі ў Менску ў 1918 годзе тэлеграмы імпэратару Вільгельму II: а ні я тады ў Менску быў, ані ведаў аб падобным праекце, дый ад віленскай Рады ніякай тэлеграмы не пасылаў. Ведама, седзючы ў Вільні, ня мог і „ўласнаручна рэдагаваць“ укладаныя без мяне ў Менску дэклярацыі і тэлеграмы.

Аб крымінальнай справе Мамонькі з 1917 году ў Менскім Акружным Судзе нічога сказаць не магу, бо жыў тады ў Вільні і аддзелены быў ад Менску ваенным фронтам. Найлепш ведае аб ёй адвакат Петрусевіч (цяпер жыве ў Вільні), які тады бараніў Мамоньку. Думаю, што аб нейкай „правакацыі“ тут ня можа быць гутаркі. Наскольк-ж мне ведама, суд апраўдаў Мамоньку за недастатачнасьцю доказу яго віны (ў сувязі з няяўкай пацярпеўшага), што аднак не пярэчыць магчымасьці праступленьня.

Што датычыць запросінаў мной у склад ураду БНР „французскага шпіка Ладнова“, як піша „Бюлетэнь“, дык праўда, што п. Ладнова я запрасіў, але ж якраз як **сябру эсэраўскае партыі** і па рэкамэндацыі маіх **калег-эсэраў**... Праўда і тое, што таго-ж п. Ладнова пасьля расколу ў Радзе Рэспублікі ў Менску **эсэраўская палавіна выбрала аднагалосна ў склад ураду Ластоўскага**, і п. Ладнов разам з усей дэлегацыяй у Парыжу прызнаў над сабой гэны ўрад і працаваў у ім, пакуль ня выкрыў зносінаў беларускіх эсэраў з нямецкімі манархістамі.

Праўда, што, пасьля сваей сваркі на гэтым груньце з „калегамі эсэрамі“, п. Ладнов зварачаўся да мяне з просьбай прарэдагаваць ягоную кнігу „Огнем и мечом, голодом и болезнямі“ ў першай яе рэдакцыі, значна розьніўшайся ад надрукаванай. Аднак, пазнаёміўшыся з яе зьместам, я катэгарычна адмовіўся прымаць якое-колечы ўчасьце ў падобным выданьні, і пасьля гэтае адмовы з. п. Ладновым нічога супольнага ня меў і ня маю. Ня меў нічога супольнага і з Беларускім Камітэтам у Варшаве, якім кіравалі паны Дубейкоўскі і Ладнов, дык і выращаць пытаньня аб фірме, пад якой Польскі Генаральны Штаб выдаў кнігу п. Ладнова, ня мог.

П. Ладнов апублікаваў пісьмо Мамонькі да некага нямецкага манархістычнага дзеяча д-ра Гравэнгофа, якога Мамонька прасіў аб грошы для сваей „работы“ па арганізацыі „возстаніе в Польше“. Ня маючы магчымасьці запярэчыць гэтаму, бо ў кнізе Ладнова зьмешчана фатаграфія ўласнаручнага пісьма Мамонькі, гэны самы Мамонька яўна брэша, кажучы, быццам гэта я яму рэкамэндаваў д-ра Гравэнгофа! Брахлівасьць гэнае заявы ізноў-жа вельмі лёгка ўстанавіць: ад часу расколу Рады я ня толькі нічога супольнага з Мамонькай ня меў, але навет не падаваў яму рукі пры спатканьні. Імя-ж д-ра Гравэнгофа першы раз даведаўся ...з пісьма Мамонькі, апублікаванага панам Ладновым!

Урэшце—яшчэ два „закіды“ па майму адрасу, надрукаваныя „фірмай“ Грыб і Мамонка, тэлеграма Дэнікіну і грашовая справа.

Пасьля пратэсту Беларускае Дэлегацыі ў Парыжу, на чале якое я стаяў, проці прызнаньня Антантай ураду Колчака „Усерасейскім“.—Дэлегацыя, праўда, паслала тэлеграму Дэнікіну, які ў той час падыходзіў пад Курск. Гэтай тэлеграмай Дэлегацыя мела на мэце напомініць Дэнікіну, якога ў Парыжу ўсе лічылі ўжо пераможцай і валадаром Расеі,—аб істнаваньні Беларускага Народу і ягоных правох.—Што-ж датыча грошы, якія перасылаліся ў Парыж на мае рукі, дык, выяжджаючы стуль у Варшаву і Менск у канцы жніўня 1919 году, усе сумы і рахункі мной былі здадзены п. Ладнову, як майму заступніку. Сабе я ніякіх грошы ня браў, ніякіх выдаткаў, зьвязаных з праектам закупкі розных амэрыканскіх вайсковых астаткаў (прадуктаў, мануфактуры, машын і інструмэнтаў), я не рабіў,—дык і ўсе сумы Дэлегацыі перайшлі ў рукі ўраду Ластоўскага. Што-ж зрабіла з імі Дэлегацыя пасьля падчыненьня яе эсэраўскаму ўраду, мне няведама, і за гэта я, ведама-ж, адказу браць не магу. Калі-б жа ў маей грашовай гаспадарцы была якая нястача, дык эсэраўскі ўрад ужо сем гадоў таму напэўна гэта падаўбы да **агульнага ведама!**

Не рэагуючы на форму гэнае эсэраўскае брахні, за якую, пэўне-ж, так гасьцінна адчыніліся перад Мамонькай граніцы Польшчы, я падаю толькі да публічнага ведама голыя факты, ведамыя дужа добра аўтарам злоснае брахні, але мала ведамыя грамадзянству. **Ант. Луцкевіч.**

Вільня, 3. VII. 1926 г.

**Ад Рэдакцыі.** Зьмяшчаем гэтае пісьмо толькі цяпер з прычыны таго, што—з увагі на яго аб'ём—не маглі ўдзяліць яму месца ў папярэдніх нумарох.

# Карэспандэнцыі.

## Усюды ашуківаюць.

(Стаўпецкі пав.).

Па загаду школьнага інспэктара гмінныя школьныя кіраўнікі праводзілі ад 1./VI. да 16./VI. рэгістрацыю дзяцей ад 1—да 14 гадоў. У рубрыцы „język ojczysty“ (матчына мова) яны ўпісывалі, або „polski“, або, „mowa miejscowa“, калі хто казаў, што ён беларус.

Доўга мы ня ведалі, на што вядзецца гэтая перапіска дзяцей і чаму паны вучыцялі завялі новую мову—„мяйсцовую“. Пасьля выясьнілася, што рэгістрацыя патрэбна дзеля школьнага пляну на будучыню ды што школьны інспэктар загадаў запісываць беларускую мову, як „мяйсцовую“, каб беларусы не маглі пасьля дамагацца сваей школы. Паводлуг школьнай тэрміналёгіі, „miejscowa mowa“ значыць тое самае, „zepsuty język polski“. Вось дзеля чаго гэтая хітрая мэханіка ўстроена.

Прыйміце-ж, людзі, пад увагу. Дамагацеся, каб вашых дзяцей запісывалі беларусамі. Ня верце інспэктарам, якія кажуць, што мова беларуская і „miejscowa“—тое самае!.. **Сьвяржанін.**

## Як наша вёска, выпісала газэту.

(В. Кнаразы, Пасьткаўскай гм., Бельскага пав).

Жыхары нашай вёскі доўга думалі аб тым, як-бы дастаць такую газэту, якая была-б надрукавана ў роднай зразумелай мове, і якая бараніла-б нашы інтарэсы. Аж вось нядаўна ў суседняй вёсцы даведаліся мы аб „Беларускай Справе“. Ахвотна прачыталі яе і ў канцы-канцоў выпісалі. Кожнаму выпісваць асобна нельга было, бо няма грошы, — дык выпісалі яе ўскладчыну. Дзеля гэтага сабралі па аднаму яйку з гаспадаркі, за што выручылі 10 зл., адаслалі ў рэдакцыю і вось атрымліваем газэту.

Жыхары досыць добра разумеюць газэту, але-б хацелі, каб яна больш месца давала пашырэньню сьвядомасьці па сельскай гаспадарцы. **Неся-Пюр.**

## Асаднікі.

(В. Шане, Пружанскага пав.).

Навокал нашай вёскі сядзяць асаднікі. Атрымалі яны і грошы і дрэва на будову, — але ўсё прапілі і цяпер жывуць у будах, або кватаруюць па мужыцкіх хатах, а зямля іхная стаіць адлогам.

Асаднік Оржэховскі кватэраваў у сірот Кастуся і Янкі Гароднікаў,—яны дзеці. За хату — не плаціў. Калі цётка дзяцей М. Хвораст пашла да яго, каб зьвярнуў грошы,—Оржэховскі, які тутэйшых людзей лічыць „быдлам“, з каторым, што хочаш, то можна і рабіць,—накінуўся на жанчыну, пробуючы яе згвалтаваць. Ледзьве адбаранілася Хвораст ад яго. Доўгу-ж ён не вярнуў і далей сядзіць сабе.

Асаднік Рамановскі атрымаў надзел, праз які праходзіла дарога. Хоць зямля ў яго не абробленая,— не дае хадзіць па дарозе—гэтакі ўжо гаспадар! Ну, а як быць без дарогі? Па небе-ж ня будзеш хадзіць....

Падалі мы заяву да зямельнага камісара, і ён распарадзіўся, што дарога дзе была — там і мусіць астацца. Праз два дні даведываемся, што Рамановскі быў у камісара і што той пастанову сваю адмяніў.

Чулі мы, што новы ўрад будзе даваць узноў грошы асаднікам і прысылаць іх больш да нас.

**Хлапец.**

## Самаўрад паноў.

(Маладэчанскі пав.).

Захацелася абшарніку Швайковскаму паправіць дарогу, што праходзе праз яго двор. Чалавек ён ня дурны, з начальствам, ведама-ж, ходзіць пад ручку, — дык улез ён у гмінную раду і, напаіўшы солтысаў, загадаў ім выгнаць на работу сялян, — на рахунак казны.

І паншчыну прыходзіцца адрабляць, і абшарнік у парадку,—вось як інтарэсы робяцца.

У вёсцы Навасёлкі два браты Масьцяровічы адмовілісяісьці папраўляць панскую дарогу. Солтыс Жукоўскі паляцеў адразу да войта, войт да камэнданта, прыехала паліцыя і арыштавала „бальшавікоў“—Масьцяровічаў. Сядзелі яны па 7 дзён у Маладэчне, — ну і, як заўсёды, чуць жывыя выйшлі з турмы.

Акрамя Жукоўскага, нягодную ролю панскіх сабак выпаўнялі Ю. Масэвіч, П. Бабей і М. Паланскі — тож солтысы. **Галодны селянін.**

## Зьезд коштам кажухоў ды каровак.

(Баранавічы).

Вядома ўсім беларусам, што „доктар“ Павлюкевіч працуе за „дыспазыцыйныя“ грошы міністэрства ўнутраных спраў у кірунку перарабленьня беларусаў на „добрых палякоў“ і што акуратна піша, куды належыць, „sprawozdania“ і „meldunki“, дзе хваліць сябе і ганіць усіх беларускіх дзеячоў, для якіх дамагаецца арыштаў, пазбаўленьня правоў і навет высылкі заграніцу. Таксама вядома і аб яго інфармацыйным аддзеле пры „Тымчасовай“, на ўтрыманьне якой даюцца грошы з дзяржаўных даходаў, гэта значыць, што кожны з жыхароў дзяржавы проці свае волі дае жыцьцё авантурыстам, на чале якіх некалі адкрыта стаяў п. Аляксюк, а цяпер стаіць шчыры яго прыяцель п. Павлюкевіч, з за плеч якога Аляксюк, як вядома, кіруе ўсей гэтай „працай“.

Ну, ды так ужо заведзена ў Польшчы, што ўрад можа распараджацца вялізарнымі сумамі народных грошы—так званым „дыспазыцыйным фондам“ — бескантрольна. Служаць яму Павлюкевічы і Аляксюкі, ён ім за тое-ж і сыпле грошы.

Але ж якія адносіны могуць быць паміж нашымі „робленымі“ самаўрадамі—соймікамі ды ўсей павлюкевічаўскай работай?! Ведама, ніякіх. А тымчасам паслушны старосьце соймік у Баранавічах (тых самых Баранавічах, скуль насяленьне ганебна выгнала з мітынгу Павлюкевіча!), калі знайшоўся-ткі нейкі ахвотнік зьезьдзіць на зьезд „Тымчасовэй“, выплаціў гэнаму „дэлегату“ (ад каго?!) на дарогу 20 злотых... (чаму ня 30 срэбнікаў?), выплаціў.

Ці на гэткія мэты з нашых зьнішчаных вайной сялян зьдзіраюць скуру, прадаючы за падаткі апошні кажух ці кароўку?

Ня верыцца, але факт ёсьць фактам, што польскія ўрадоўцы няведамай мінуўшчыны арганізуюць зьезды панам Павлюкевічам коштам беларускіх кажухоў ды каровак.

Куды і каму скардзіцца? **Няведамы.**

# Як у найлепшых дамох буржуазнага сьвету.

(*„Дзяржаўны кат“ у Польшчы*).

Газэты паведамілі, што польскі ўрад прыняў на дзяржаўную службу — **ката...** Але, як і трэба было спадзявацца, у культурнай дзяржаве „дзяржаўным катам“ ня можа быць абы хто: у Польшчы кат — **дыплёмаваны дохтар** (ня то, што наш „дохтар“ Павлюкевіч!), знаходзіцца — з вышэйшай дый спэцыяльна мэдыцынскай асьветай...

Кат мае 31 год,—яшчэ ў цьвеце веку, добра выхаваны, элеганцкі, скромны малады чалавек. Скромны настолькі, што навет схаваў сваё прозьвішча пад псэўданімам „Мацееўскі“... Гэткім „кваліфікацыям“, зразумела, адпавядаюць і назначаныя яму новым — „маральна-рэвалюцыйным“ урадам прафэсара Бартля—чын і пэнсія. — Па чыну ён—чыноўнік 4 клясы, здаецца—роўны паном ваяводам, калі ня вышэй. Па гэтаму чыну атрымлівае і пэнсію, да якой дадаюцца яшчэ — прагоны, дыеты, сталовыя і — „паштучныя“... Паштучна польскі дзяржаўны кат атрымлівае па 50 зл. — за кожны „раз“.

Дык усяго атрымлівае мо' й больш, як ваявода, а ў **далейшым** можа зарабляць больш навет за пана прэзыдэнта... Усё залежыць ад — „паштучных“...

# Паштовая скрынка.

**Гр. Хмары.** Пісьмо Вашае атрымалі перад самым выхадам газэты. Адказ на пытаньне атрымаеце ў найбліжэйшым часе.

**Гр. пацярпеўшаму.** Справа Ваша ськівавана ў Соймавы Клюб Раб.-Сял. Грамады для злажэньня інтэрпэляцыі.

**Атрымана:**

Ад:—Аляксандра Кузьмы, Андрэя Каўбаскі, Яна Жэнькі, Язэпа Мятлы, Д. Гундэвіча, К. Царука, Тодара Жалевіча, Казімера Шыдлоўскага, Мікалая Бразоўскага, Андрэя Гірэйкі, Міхала Афанасіка, Марыі Ваўкавыцкай, Яна Ярановіча, Язэпа Варановіча, Сяргея Лабоцкага, Віктара Ланцэвіча, М. Юрыса, Я. Амільяна, Антона Макоўскага, Антона Яроміча, Юльяна Дарашкевіча, Дм. Цубача, А. Калодкі, Усевалада Сурагі, Яна Скамароцкага, Яна Сушкі, З. Высоцкай, Уладзіміра Новіка, Уладыслава Хваські, Канст. Вінаграда, Яна Матвейчыка, Базыля Місюля, Яна Даніловіча — **па 1 зл. 50 гр.**

Ад:—Гальяша Каўцэвіча, Ніхея Рылы, Данілы Краўчэні, Міхала Казарэза, Паўла Тура, Рыгора Кастусіка, Сяргея Багданчука, Яна Котчыка, Паўлоўскага, Пятра Вярцілы, Сяргея Дубеня, Уладзіміра Шахоўскага, Язэпа Цыунэля, Леаніда Шпакоўскага, Яна Шчэрбацэвіча, Сьцяпана Мяцеліцы, Сяргея Калейніка, Аляксея Анішчука, Канстан. Шафарэвіча, Базыля Варчана, Яна Федарошкі, Аляксандра Мальца, Антона Грыкі, Уладзіміра Каляды, Яна Батаховіча, Паўла Жэбелева, Міхала Хруцкага, Віктара Белазерскага, Нікіфара Савіча, Язэпа Піваварчыка, Яна Ізоіткі, Мірона Балдоўскага, Уладзіміра Скварнюка, Адама Пакумейкі, Мікалая Грыцука—**па 2 злотых.**



Адказны-Рэдактар: **С. Макулік.** Друкарня **Н. Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22 Выдавец пасол на Сойм **П. Мятла.**